Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# Чырвоная Краіна



№ 3

1917—1927 г. г.

ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1928 г.

НА ВЯЛІКУЮ БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

# „ПОЛЫМЯ“

СЁМЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ

**Пад рэдакцыяй: З. Жылуновіча (адказны рэдактар), М. Зарэцкага і Я. Ліманоўскага.**

У ЧАСОПІСІ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ САМЫЯ ВЫДАТНЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ І НАВУКОВЫЯ СІЛЫ

## У наступным 1928 годзе ў склад супрацоўнікаў „ПОЛЫМЯ“ запрошаны:

**Адамовіч Я. (Масква), Александровіч А., Байкоў М.. Баліцкі А., Бандарына З. (Сібір), Барашка І., Білецкі А. проф. (Харкаў), Бываеўскі Н. (Ленінград), Быхоўскі Б., Бузук П., проф., Бонч-Асмалоўскі А. (Масква), Барычэўскі Е. проф., Барысёнак С (Кіеў), Бэхзр І. (Бэрлін), Васілеўскі Д., Вольны А., Вольфсон С. проф., Вейскопф Ф. (Чэха-Славакія), Ванчура (Чэха-Славакія), Гартны Ц. (Жылуновіч З.), Гарабурда К., Гарэцкі Г., Грамыка М., Гурло А., Грэдынгер М. проф., Герчыкаў І., Глыбоцкі Т., Гора (Чэха-Славакія), Даркевіч П., Дрэйзін Ю., Дзяржынскі Ў., Дружчыц В. проф., Дудар А., Жарскі П., Жарынаў З. проф. Жылка Ў., Замоцін І. проф., Зарэцкі М., Зімёнка А., Івашын Я., Ігнатоўскі Ўс. проф., Імшэньнік Ф., Карклін М., Каліноўскі У., Каган Л., Канаплін Н., Кіпель Я., Колас Я. (Тарас Гушча), Купала Янка, Кнорын В., Касьпяровіч М., Каваль Г., Кляшторны Т.. Кіш П. (Бэрлін), Лёсік Яз, Ліманоўскі Я., Лявонны Ю., Ластоўскі В., Ляск Б. (Бэрлін), Лейцен Л. (Латвія), Маракоў В., Марук Я., Моркаўка А., Мурашка Р., Мялешка М., Некрашэвіч С., Нёманскі Я. (Пятровіч), Нікановіч М., Окіншэвіч Л. (Кіеў,) Падабед Я., Пічэта Ў. проф., Пфляумбаум Е., Піотуховіч М. проф., Прышчэпаў З., Панкевіч П., Поль Г. (Бэрлін,) Расін Л., Руткоўскі Е., Сянькевіч А., Трус П., Фурчык Ю., (Чэха-Славакія), Харэвіч А., Хэрсонскі Х. (Масква), Хлябцэвіч Я. (Масква) Цьвікевіч Я., Цьвікевіч Аляксандар, Чарвякоў А., Чарот М., Чорны Кузьма, Чарнушэвіч Н., Шатэрнік М., Шыпіла Ів., Шлюбскі А. Шчакаціхін М., і інш.**

ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“ ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ПАЎТАРА МЕСЯЦЫ (8 КНІЖАК НА ГОД) РАЗЬМЕРАМ КОЖНЫ НУМАР 12—14 ДРУКАВАНЫХ АРКУШОЎ

**Апрача зьмешчаных матэрыялаў па літаратуры, палітыцы, эканоміцы, гісторыі і крытыцы „ПОЛЫМЯ“ на сваіх старонках дае багаты кнігасьпіс, поўную хроніку беларускай культуры, хроніку культурнага жыцьця СССР і заходня-эўропэйскіх краін.**

**Гадавыя падпішчыкі „ПОЛЫМЯ“ на 1928 г., якія да 15 лютага прышлюць грошы, АТРЫМОЎВАЮЦЬ ПА ВЫБАРУ БЯСПЛАТНА ЛІТАРАТУРНЫ ДАДАТАК: АДЗІН КОМПЛЕКТ „ПОЛЫМЯ“ або „МАЛАДНЯКА“ за 1926 ці 1927 г., альбо замест комплектаў „ПОЛЫМЯ“ ці „МАЛАДНЯКА“ чатыры кніжкі на беларускай мове: Ем. ЯРАСЛАЎСКАГА.—Жыцьцё і праца Леніна; Л. КАГАНА.—Нацыянальна-вызваленчы рух на Ўсходзе; КЕРЖАНЦАВА.—„З гісторыі РКП(б)“ і зборнік „Заходняя Беларусь“.**

**Паўгадавыя падпішчыкі атрымоўваюць у дадатак НАСЬЦЕННЫ КАЛЯНДАР на 1928 год І ПА ДЗЬВЕ З ПАМЯНЁНЫХ ВЫШЭЙ КНІЖАК.**

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА: на год 10 руб., на 6 м-цаў 5 руб., на 3 месяцы 2 руб. 50 кап.**

АСОБНЫ НУМАР КАШТУЕ **1** РУБ. **50** КАП.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА

ў рэдакцыі часоп. „Полымя“ (Менск, Савецкая, 63), у цэнтральнай кнігарні Бел. Дзярж. Выдавецтва (Менск, вуг. Ленінскай і Савецкай, 19/79), ва ўсіх акруговых аддзяленьнях Бел. Дзярж. Выдавецтва, ва ўсіх паштовых аддзяленьнях і ў канторы падпіскі на газэты „Правда“ „Известия“ (Менск, Савецкая, 61).



**Варожыя сьляды па Беларусі**

А. Блок.

# З поэмы „Дванаццаць“

* * *

*Ох, ты гора-горкае!*
*Доля нудная,*
*Сумная!*
*Я часіну тут*
*Правяду, правяду...*
*Я патыліцу*
*Пачашу, пачашу...*
*Я гарбузікаў*
*Пагрызу, пагрызу...*
*Я і ножычкам*
*Паласну, паласну!..*
*Ты ляці, буржуй, зязюлькаю!*
*Вып'ю кроў тваю*
*За любоў маю*
*Чарнабровую...*
*Хай бог апякуецца над ёю...*
*Нудна.*

* * *

*Ня чутна шуму гарадзкога,*
*Над неўскай вежай цішыня,*
*І больш няма гарадавога—*
*Гуляйце, хлопцы, без віна!*
*Стаіць буржуй на раздарожжы,*
*Схаваў ў каўнэр сьсінелы нос,*
*А поруч з ім сьпіну наёжыў*
*Сабака, падтуліўшы хвост.*
*Буржуй—галодным ваўкалакам*
*Да маставой нібы прырос,*
*Сьвет даўны, як стары сабака,*
*Падціснуў свой аблезлы хвост.*

* * *

*Загуляла завіруха,*
*Ой, ой, завіруха!*
*Ўсё пад белай пацярухай*
*Захавалася кругом.*
*Сьнег ўзьвіваецца слупом,*
*Рассыпаецца наўслону...*
*Ох, мяцель якая, спасе!*
*Гэй, Пятруха, ня хістайся...*
*Ад бяды цябе мо‘ спас*
*Залаты іконастас?..*
*Несьвядомы ты, ды дзе там—*
*Сам падумай ты аб гэтым.*
*Хіба рукі ў кроў ня спляміў*
*Цераз Кацькіна каханьне?*
*Шаг трымай рэволюцыйны—*
*Справім ворагу гасьціны.*
*Ўпярод, ўпярод!*
*Рабочы народ.*

* * *

*І ідуць без імені сьвятога*
*Ўсе дванаццаць ў даль.*
*Да ўсяго гатовы,*
*Ніпачым ім жаль.*
*Іх вінтоўкі гневам веюць*
*На варожыя сьляды,*
*У завулкі, дзе завеі,*
*Дзе ўзьлятае сьнег, як дым,*
*Дзе ня пройдзе праз сувеі*
*Ні стары, ні малады.*
*Сьцяг чырвоны*
*Коле зрок.*
*Гулкі звоніць*
*Мерны крок,*
*Рушыць вораг*
*На парог...*
*Сьнегам вецер сыпле ў вочы*
*Дні і ночы*
*Напралёт...*
*Ўпярод, ўпярод!*
*Рабочы народ!*

* * *

*Трах-тах-тах! І толькі рэха*
*Адгукаецца—гу-гу,*
*Ды завея доўгім сьмехам*
*Заліваецца ў сьнягу.*
*Трах-тах-тах,*
*Трах-тах-тах...*
*Так ідуць ўсяўладным шагам.*
*Ззаду цюцька скорчыў хвост...*
*На чале з крывавым сьцягам*
*Нявідомы ў сьнежным гуле,*
*Недасяжны і для кулі.*
*Крокам кволым, падзавейным,*
*Сьнежным россыпам лілейным,*
*У вяночку, з белых роз,*
*На чале Ісус Хрыстос.*

*Пераклад* **Ал. Дудара.**



Кастрычнік на Заходнім фронце. Салдаты пакідаюць акопы

# КАСТРЫЧНІК

Восень 1917 году...

Цэны на харч растуць. Хлебны паёк усё зьмяншаецца, затое ўсё ўзрастаюць чаргі каля харчовых крам у гарадох.

апусьцеюць. Уся армія пойдзе ў тыл“.

Сяляне грамяць маёнткі, праганяюць абшарнікаў.

Часовы ўрад страціў апошні

толькі на ўладу, створаную ўласнымі рукамі. Толькі Савет можа выратаваць Расею ад поўнага разбурэньня.

Яшчэ з лета Саветы пачалі



Начная атака Зімняга ў Ленінградзе

Абурэньне рабочых расьце, і яны гоняць фабрыкантаў з іхных кантораў.

На фронце непарадкі. Салдаты тысячамі кідаюць стрэльбы і ўцякаюць дамоў. „Калі да 1-га лістапада ня будзе заключан мір,— кажуць яны, — дык усе акопы

сілы, і на ўсе вымаганьні народу адказвае абяцанкамі: „Чакайце“. „Чакайце канца вайны“, затым „Чакайце Ўстаноўчага Збору“. Але народ ня хоча чакаць. Апошняя вера ў часовы ўрад зьнікла.

Рабочыя і сяляне стомленай Расеі ўскладаюць усе свае надзеі

нясупынна расьці. Яны ўцягнулі ў сябе жыцьцёвыя сокі з гушчы рабочых, сялян і салдатаў.

І з глыбыні народных гушчаў выбухнуў магутны кліч: „Уся ўлада Саветам!“ Магутным рэхам гэты кліч ахапіў усю Расею. Зямля і фабрыкі, казармы і ба-



Ленін і Рыкаў

явы фронт далучыліся да гэтага лёзунгу, які гучэў усё больш гучна і настойліва.

4-га лістапада Петраград яшчэ больш выразна падкрэсьліў магутнасьць гэтага лёзунгу, наладзіўшы шэсьцьдзесят аграмадных народных мітынгаў. Сотні тысяч галасоў крычалі: „Далоў часовы ўрад! Уся ўлада Саветам!“ Сотні тысяч рук узьнімаліся ў адзнаку таго, што яны даюць клятву змагацца і памерці за Саветы.

Пасьля мітынгаў усе спакойна разыходзяцца па хатах. Пралетары ведаюць, што рэвалюцыя вымагае парадку, пляну і працы цяжкай, напружанай працы. Вярнуўшыся дамоў, яны арганізуюць камітэты, фармірують аддзелы Чырвонага Крыжу, ладзяць стрэльбы. Рукі, якія толькі што ўзьнімаліся пры галасаваньні за рэвалюцыю, трымаюць цяпер вінтоўкі. У Смольным зьмяшчаецца Ваенна-Рэвалюцыйны Камітэт, які аддае загады і кіруе чыннасьцю рэвалюцыйных мас.

Контр-рэвалюцыя таксама ня сьпіць.

Керанскі расьпінаецца на трыбуне: „Ленін — дзяржаўны праступнік, ён штырхае на рабунак, на страшную разьню, якая пакрые ганьбой усю Расею“. У адказ на паклёп масы ладзяць бурную авацыю ў чэсьць Леніна, а Смольны ператвараецца ў арсэнал дзеля яго аховы.

Контр-рэвалюцыя яшчэ спрабуе ўтапіць рэвалюцыю ў крыві і непарадках. Цёмныя сілы заклікаюць народ да паўстаньня і пагромаў. У адказ на гэта рабочыя расклеілі па ўсім Петраградзе такія плякаты: „Грамадзяне! Мы заклікаем вас да падтрыманьня парадку і спакою. Нагляд за парадкам у цьвёрдых руках. Пры першых-жа спробах рабункаў і гвалтаў віноўныя панясуць належную кару“.

Спрабавалі задушыць рэвалюцыю і пры дапамозе зброі. Керанскі выклікаў з фронту найбольш пэўныя палкі, на якія яшчэ можна было спадзявацца, што яны не адмовяцца страляць у рабочых. Па ўсіх шасэ, па якіх ішло к Петраграду войска, рэволюцыя расставіла свае сілы. Гэтыя сілы ідуць у атаку на ворага, але не са зброяй, а з ідэямі. Яны пераконваюць войска, якое



**Шлюз на Ваўхаўбуду. Цудоўныя хвалі**

нікаў“. І казакі таксама выстрайваюцца пад сьцягам рэвалюцыі.

Са ўсіх канцоў Расеі зьяжджаюцца дэлегаты на II Ўсерасейскі Зьезд Саветаў, які зьбіраецца ў Смольным.

Смольны—цэнтр Саветаў.

Сьцюдзёны і шэры ўдзень Смольны, уначы сьвеціцца сотнямі яркаасьвечаных вакон. Перад яго

каюць да парадку, з грудамі зброі, з кулямётамі на сьлізкай падлозе, з рэвалюцыйнымі песьнямі, з авацыямі ў чэсьць Леніна, у чэсьць правадыроў рабочай клясы.

А 10-ай гадзіне 40 хвілін вечара 6-га лістапада адчыняецца гістарычны мітынг. „Першая сэсія Другога Зьезду Саветаў адчынена“. Выбіраюць прэзыдыум. Бальшавікі атрымліваюць 14 месц, усе іншыя партыі—11.

Лідары бальшавікоў займаюць свае месца. Правыя партыі вымагаюць перагляду парадку дню. Спрэчкі.

Раптам--аддалёны гром выстралу. Усе зьдзіўлены. Гэта выстрал гарматы з крэйсара „Аврора“, які адкрыў агонь па Зімняму дварцу. Цяжкая кананада даносіцца з нязьменнымі правільнымі перарывамі, абвяшчаючы сьмерць старому ладу і пасылаючы прывітаньне новаму.




**Якім будзе Днепрабуд**

замест таго, каб задушыць рэвалюцыю, само пераходзе на яе бок.

Нават казакі пераходзяць на бок рэвалюцыі. „Браты“-казакі,—кажа бальшавіцкая адозва,—вас абманваюць вашы генэралы, якія хочуць задушыць рэвалюцыю. Таварышы казакі! Не паддавайцеся ганебным плянам драпеж-

варотамі два факелы, якія падтрымліваюцца вартаўнікамі-салдатамі.

З вайны, з ссылак, з турмаў, з Сібіры сьцягваюцца дэлегаты ў Смольны. Цяпер Смольны—аграмадны пляц, з прамоўцамі, якія заклікаюць да зброі, са званкамі старшынь, якія заклі-

Гэта голас мас з вымаганьнем: „Уся ўлада Саветам“. Такім чынам востра пастаўлена пытаньне: ці абвесьціць зьезд Саветы ўрадам Расеі і ці дасьць ён законнае сьцьверджаньне новай уладзе?

**Прамовы, спрэчкі, рэзалюцыі.**

Правыя прапануюць доўгую рэзалюцыю. Заля ня можа цяр-

пець. „Больш ніякіх рэзалюцый! Ніякіх слоў! Мы жадаем справы! Мы жадаем улады Саветаў!“

Інтэлігенцыя прапануе каалі-цыю ўсіх партый. „Магчыма толькі адна кааліцыя,—крычаць ім у адказ,—кааліцыя рабочых, салдатаў і сялян!“

Каля васьмідзесяці дэлегатаў пакідае пасяджэньне. Інтэлігенцыя выходзіць з залі і з рэвалюцыі. Яна пакінула народ у самы разгар барацьбы. Яна ізаліравала сама сябе ад рэвалюцыі, ад барацьбы за рэспубліку рабочых і сялян.

У канцы гэтай цяжкой ночы, у выніку гарачых спрэчак, простая дэкларацыя: *„Часовы ўрад скінут. Дзяржаўная ўлада перайшла ў рукі органа Петраградзкага Савету Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў — Ваенна-Рэвалюцыйнага Камітэту, які стаіць на чале петраградзкага пралетарыяту і гарнізону. Справа, за якую змагаўся народ,—неадкладнае запрапанаваньне дэмакратычнага міру, адмена панскай уласнасьці на зямлю, рабочы кантроль над вытворчасьцю, утварэньне Савецкага ўраду, — гэта справа забясьпечана...“* і г. д.

Воля рэвалюцыйных мас перамагла. Саветы сталі ўрадам.

Гістарычнае пасяджэньне скончылася а 6-ай гадзіне раніцы 7-га лістапада.

На вуліцы яшчэ цёмна і сьцюдзёна, але золак ужо загараецца на ўсходзе чырвоным заравам.

Другое здарэньне гістарычнай важнасьці, якое адбылося ў тую-ж ноч на 7-га лістапада ў Петраградзе—узяцьце Зімняга дварца.

У гэту ноч міністры часовага ўраду, апрача Керанскага, усё яшчэ сядзяць на пасяджэньні ў Зімнім дварцы. Вось чаму сюды падышоў крэйсер „Аврора“ са сваімі гарматамі. Праўда, стралялі халастымі зарадамі, але яны прымушалі дрыжэць паветра, будынак і нэрвы міністраў.

Нейчы голас крычыць: „юнкеры здаюцца!“ Але, памятаючы пра свае страты, матросы і салдаты, захапіўшы з сабой сваіх забітых і параненых, хаваюцца за барыкадамі.

На Неўскім нязьлічоная грамада. Нібы калёнамі яна праходзе чырвоную арку і моўчкі сунецца далей. Пералазячы праз барыкады, народ урываецца праз зялезную браму ў адчыненыя дзьверы. З сутарэньняў і казармаў людзі аказаліся ў залітых



Савецкая
БЕЛАРУСЬ

Абвяшчэньне.

Нiхай жыве Савецкая Беларусь!

Розные вести.

**Першы № „Сав. Бел.“ пасьля канчатковага вызваленьня ад бела-палякаў**

бляскам залях і раззалочаных пакоях Гэта запраўды рэвалюцыя—будаўнікі ўваходзяць у пабудаваны імі палац!..

Затым з дварца павыводзілі арыштаваных міністраў часовага ўраду, захопленых на пасяджэньні за сталом з зялёным сукном. Пасьля міністраў ішлі іхныя абаронцы—юнкеры, якія баранілі дваран ад рэвалюцыйных матросаў і салдатаў.

Апошнімі з арыштаваных былі выведзены з дварца дзяўчатысалдаты з жаночага батальёну.

У хуткім часе Керанскі, пераапрануўшыся, уцёк з фронту. Галоўнакамандуючы арміямі, прызначанымі дзеля зьнішчэньня бальшавікоў, ня можа змусіць сваю асабовую варту ўцякаць з ім. Пралетарыят перамагае.

---

18-га студзеня 1918 году, у той час, калі клясавая барацьба дасягнула свайго найбольшага развою, адчыніўся Ўстаноўчы Збор. Ён адбіваў ужо перажытую фазу рэвалюцыі, той пункт гледжаньня, які зусім страціў сувязь з запраўднасьцю. З боку масаў Устаноўчы Збор не карыстаўся прыхільнасьцю, але буржуазея радасна вітала яго. Хоць запраўды буржуазея і ня любіла Ўстаноўчага Збору і нават у працягу некалькіх месяц ў старалася адцягнуць яго адчыненьне, або і зусім сарваць, — зараз, аднак, Устаноўчы Збор быў яе апошняй надзеяй, апошняй заслонай, за якой магчыма было павесьці барацьбу супраць Саветаў і бальшавікоў.

Устаноўчы Збор узьнік занадта позна, ён аказаўся мёртвароджаным. Рэвалюцыйныя масы к гэтаму часу цалкам перайшлі ўжо на бок Саветаў. Савет быў дораг працоўным масам, бо ён быў іхнай уласнай установай, якая здольна была ажыцьцявіць іхныя імкненьні.

А цяпер гэты Ўстаноўчы Збор адмовіўся прызнаць Савет, як расейскі ўрад. Ён адмовіўся прызнаць „Дэкларацыю правоў працоўнага і эксплёатаванага народу“.

І таму Ўстаноўчы Збор раніцой 19-га студзеня 1918 году быў распушчан. Такім чынам, пасьля адзінага пасяджэньня Ўстаноўчы Збор скончыўся, бо ён ня меў ніякага грунту ў народзе, ня меў права на існаваньне.

Толькі ленінскі бальшавіцкі Савет, па залітай крывёй каляіне, змог вывесьці краіну з цяжкай грамадзянскай вайны на шлях мірнага сацыялістычнага будаўніцтва.



Першы ток Волхаўбуду ў Ленінградзе

Да 10-годзьдзя Кастрычнікавай рэвалюцыі, да дзесяцігодзьдзя пабеды пралетарыяту задачы савецкай прамысловасьці рэзка мяняюцца. Закончыўшы свой аднаўленчы пэрыяд, пакінуўшы ззаду гэтак званыя даваенныя нормы, яна вырашае новыя, шырокія праблемы, узбуйняе базу сацыялістычнага будаўніцтва, ставячы перад сабой ня толькі задачы арганізацыйна-тэхнічнага і тэхналягічнага характару, а і практычна прапрацоўваючы мэтады пабудаваньня сацыялізму ў асобнай краіне.

Волхаўбуд. Агульны выгляд сілавой станцыі

# Радасьцю сонца сьвеціць





**Наша флётылія на Заходняй Дьзвіне**

„Не выпадкова ў дні цяжкіх няўдач на белапольскім фронце, калі мы прымушаны былі інтэрнавацца на тэрыторыі Ўсходняе Прусіі, нашы байцы былі сьведкамі, як перад вітрынамі нямецкія рабочыя, разглядаючы фатаграфічныя здымкі з Чырвонай і белапольскай арміі, затрымлівалі асаблівую ўвагу на здымках Чырвонай арміі, называючы яе сваёй арміяй, выказваючы тым самым свае гарачыя сымпатыі. Не выпадкова мы назіраем тыя-ж адзнакі сымпатыі, калі нашы чырвоныя часьці наведваюцца зарубежным пралетарыятам у іх казармах і лягерах. Мы загадзя ведаем, што спаткаем у іх асобе родных таварышоў, разумеючых нашы задачы, і ня было выпадкаў, каб мы памыліліся ў тым уражаньні, якое робяць на гасьцей нашы шэрагі.

Вобразна кажучы, нашы ворагі ідуць на нас з вадой, каб заліць пажар рэвалюцыі. Такім чынам, мае адбыцца спатканьне вады з агнём. Адсюль ясна, што ў выкананьні сваёй задачы мы павінны быць падобны да агнёвай стыхіі.



**Пабудова мосту праз р. Сьвіслач (Менск)**



**Адзін з адноўленых заводаў**

Ці па сілах гэта адной арміі? Само сабой зразумела, што не. Гэта задача будзе нам па сілах пры ўдзеле ўсіх вытворчых сіл Саюзу. У абароне павінны ўдзельнічаць усе сілы і сродкі. Дні юбілейных урачыстасьцяй, калі мы аднагодна адчуваем свае рэвалюцыйныя заваёвы, павінны нам быць парукай агульнага ўдзелу ў справе наступнай абароны“.

**С. С. Каменеў.**







Аграмадную спадчыну пакінуў Ільліч шматлікім прадаўжацелям яго справы. Усяго ў кароткім падрахунку і ня зьлічыш. Але хацелася-б напомніць яшчэ аб аднэй маральнай каштоўнасьці, застаўленай гэтым гігантам думкі і рэвалюцыйнае волі, тэй каштоўнасьці, якую дзесяткі і сотні мільёнаў простых, бясхітрасных людзей, што паверылі ў перамогу Ленінскіх ідэалаў, захавалі ў глыбіні сваіх сэрцаў. Гэтай каштоўнасьцю зьяўляецца добрае імя Ільліча, як прыяцеля ўсіх прыгнечаных, як нязвычайнага чалавека, для якога не існавала іншых момантаў, іншых повадаў для горасных і радасных перажываньняў, як толькі выпадкі ўдачаў і няўдачаў рэвалюцыйнае барацьбы, у каго інтарэсы асабістага жыцьця цалком пакрываліся інтарэсамі рэвалюцыі, які заваяваў сабе найшчырэйшыя сымпатыі мас нязвычайнай скромнасьцю сваіх асабістых патрэб, сваім аскетычным рэжымам у сфэры хатняга жыцьця, сваёй бяскрайнай, хоць і падпарадкаванай меркаваньням аб добрабыце рэвалюцыі, вялікадушнасьці, які, карацей кажучы, быў узорам злучэньня ідэальных духоўных якасьцяй з пункту погляду ня толькі яго блізкіх прыяцеляў, таварышоў і прыхільнікаў, а і натоўпу ў самым шырокім сэнсе гэтага слова.

**Інстытут Леніна ў Маскве**

**Рабочы стол Леніна ў СНК**

# КАСТРЫЧНІК НА БЕЛАРУСІ

Адразу пасьля Лютаўскай рэвалюцыі ініцыятыву па барацьбе за сацыялістычную рэвалюцыю на Беларусі ўзяў на сябе невялічкі гурток бальшавікоў, які складаўся пераважна з вайскоўцаў Заходняга фронту. З кожным днём бальшавіцкая арганізацыя пачала расьці і ўмацоўвацца. У яе шэрагі, апрача салдатаў фронту, пачалі ўлівацца беларускія рэвалюцыйныя рабочыя і сяляне. І 4-га сакавіка 1917 г. Менск ужо меў свой савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які пачаў гуртаваць наўкол сябе сілы дзеля барацьбы за захапленьне ўлады ў рукі рабочых і сялян.

У канцы красавіка зьезд салдацкіх дэпутатаў Заходняга фронту выбраў свой выканаўчы камітэт дзеля кантролю і кіраваньня жыцьцём Заходняга фронту. І толькі ў лістападзе 1917 году (19, 20 і 21 лістападу) адбыўся Усебеларускі зьезд рабочых і сялянскіх дэпутатаў. Ён паставіў перад дэлегатамі вострыя пытаньні наконт вайны, улады, зямлі. Па ўсіх гэтых пытаньнях зьезд



**Зруйнаваны палякамі завод імя Леніна (Барысаў) перавысіў даваенную норму**



**Будуецца „Дом Селяніна“ ў Менску**



**Будынак рабочых у Менску**

Новы чатырохпаверхавы будынак у Менску па вул. Валадарскага заселены рабочымі.

рашуча заявіў: вайну спыніць, уладу ўзяць у рукі рабочых і сялян, зямлю перадаць сялянам. Такім шляхам ішла паступовая арганізацыйная праца бальшавікоў, якія вялі працоўных Беларусі да захапленьня ўлады ў свае рукі.

Другім асяродкам, варожым пралетарскай рэвалюцыі, былі беларускія нацыянальна-шовіністычныя колы. У сакавіку 1917 году беларускія організацыі абралі Беларускі Нацыянальны Камітэт, які патрабаваў далучэньня ўсёй Беларусі да дэмакратычнай Ра-



Ленін з членамі 2-га кангрэсу Камінтэрну

сейскай рэспублікі, дабіваючыся аднача́сна з гэтым нацыяналізацыі школы.

У склад Беларускага Нацыянальнага Камітэту ўваходзіў абшарнік Скірмунт, ксёндз Гадлеўскі, інтэлігенты, чыноўнікі, настаўнікі і г. д. Гэта была звычайная буржуазна-дэмакратычная арганізацыя з нацыянальнай афарбоўкай. Сам па сабе Камітэт пашкодзіць рэвалюцыі ня мог, аднак прыходзілася мецъ на ўвазе, што ён называе сябе прадстаўніком усяго беларускага народу і нават падаваў ураду Керанскага дэкларацыю ад імя ўсяго беларускага народу. Апрача гэтага, Беларускі Нацыянальны Камітэт меў у сваіх руках некаторыя козыры: папершае—існаваўшыя на Беларусі агульна-расейскія буржуазна-дэмакратычныя арганізацыі вялі тут і пасьля рэва-

Варожыя рэвалюцыі сілы гуртаваліся вакол двух асяродкаў. Першы асяродак адбіваў настроі і імкненьні расейскай і зрусіфікаванай буржуазеі, якая хацела захаваць Беларусь, як „Северо-Западный край“ суцэльнай дэмакратычнай Расеі.

люцыі старую русыфікатарскую палітыку; падругое—сярод камуністаў, што працавалі на Беларусі ў першыя часы рэвалюцыі, было

таньне зусім самастойнае, i вырашэньне якога павінна стаць паперадзе вырашэньня ўсіх іншых пытаньняў рэвалюцыі. Так й



Беларускі Дзяржаўны Тэатр.

вельмі мала мясцовых таварышоў. Гэта давала магчымасьць нацыяналістычным элемэнтам бараніць сваю пляцформу. Бальшавікоў яны звалі чужынцамі, якія ня ведаюць жыцьця і патрэбаў беларускага жыхарства, а таму ня могуць кіраваць далейшым разьвіцьцём жыцьця Беларусі.

Больш небясьпечнай для пралетарскай рэвалюцыі зрабілася Рада беларускіх арганізацый, абраная ўлетку 1917 году. Яна выключыла са свайго складу абшарнікаў і ксяндзоў і старалася выяўляць сваю пляцформу так, каб падладзіцца пад рэвалюцыйныя настроі сялянства.

Такім чынам, побач з паступовай арганізацыяй Саветаў на Беларусі, ішла зусім самастойная праца беларускіх нацыяналістычных арганізацый, якія стараліся зьбіраць навакол сябе сілы, пераважна сялянства і сялянскай інтэлігенцыі, і накіроўвалі іх супроць пралетарскай рэвалюцыі.

Галоўнай зброяй у барацьбе паміж рэвалюцыйнымі і супрацьрэвалюцыйнымі сіламі за далейшыя шляхі рэвалюцыі на Беларусі было нацыянальнае пытаньне. Беларускія нацыяналістычныя арганізацыі на першы плян высоўвалі нацыянальнае пытаньне, не залежна ад пытаньняў сацыяльнай рэвалюцыі, як пытактыцы значна спрыяла надзвычайная заблытанасьць сацыяльных і нацыянальных узаемаадносін. Нацыянальнае пытаньне на Беларусі ўвесь час было самым вострым пытаньнем, бо сацыяльныя, клясавыя супярэчнасьці праз увесь этап рэвалюцыйнай барацьбы пераблытваліся з нацыянальнымі—і наадварот.

Сяляне хацелі н быць сабе больш зямлі за кошт панскіх маёнткаў, зьменшыць або і зусім зьнішчыць падаткі і арэнду а таксама імкнуліся зьнішчыць сьляды прыгону, якія ўвесь час абмяжоўвалі правы сялянства ў грамадзкім і палітычным жыцьці. Адначасна з гэтым беларускія сяляне адчувалі страшэнныя зьдзекі над сваёй мовай, над сваім жыцьцём. А таму барацьба за сацыяльнае вызваленьне на Беларусі была ў той-жа час і барацьбой нацыянальнай, бо яна была накіравана супроць польскага і расейскага абшарніка.

У рэвалюцыйнай барацьбе беларускі селянін стаў поплеч з рабочым, бо сэнс барацьбы быў у тым, каб зьнішчыць эканамічнае, палітычнае і нацыянальнае прыгнечаньне рабочага, каб вызваліць селяніна ад абшарніка, каб зрабіць селяніна „чалавекам", а яго мову і культуру чалавечай. Гэтыя пытаньні—супольныя і для рабочага і селяніна, а таму і барацьба за іх ажыцьцяўленьне была адналькова неабходнай як для рабочага, так і для селяніна. Таму і сэнс нацыянальнага пытаньня на Беларусі паступова, побач з разьвіцьцём рэвалюцыі, пачаў мяняцца, як пачалі мяняцца і адносіны да рэвалюцыі з боку розных сацыяльных груп. Таму і перамаглі беларускія рабочыя і сяляне, якім у працягу доўгай барацьбы прышлося змагацца ня толькі са сваім панам і капіталістым, але якім яшчэ выпала на долю вытрымаць цяжар акупацыі нямецкага імпэрыялізму і белапольскага арла. Вораг быў моцны, але яшчэ мацней аказалася рэвалюцыйная воля рабочых і сялян.



У цэнтры сталіцы Беларусі



Якой будзе Асінаўская электростанцыя

# Кастрычнік на Заходнім фронце

Кастрычнікаўская рэволюцыя на Беларусі неразлучна зьвязана з імпэрыялістычнай вайной, якая стварыла з Беларусі вялікі пляцдарм Заходняга фронту. На соткі кілёмэтраў раскінулася лінія фронту. Акопамі былі зрэзаны ўздоўжкі і ўшыркі беларускія гоні. Многамільённае войска знаходзілася на тэрыторыі Беларусі. Значэньне Заходняга фронту надзвычайна вялізнае ў гісторыі Кастрычніка. На працягу амаль што ўсяго 1917 г. Заходні фронт быў ахоплены полымям рэволюцыі; імпэрыялістычнай арміі надыходзіў развал. З кожным днём бояздольнасьць фронту зьмяншалася, салдаты пакідалі акопы, заместа таго, каб па загаду Керанскага ісьці ў наступленьне, „бараніць радзіму і рэволюцыю“. З кожным днём павялічваўся лік салдат, якія прызнавалі сябе прыхільнікамі бальшавікоў, уплыў на салдацкія масы эсэраўска-меншавіцкіх вайсковых камітэтаў катастрафічна падаў. Кінутыя ў масы **тав. Леніным** лёзунгі „далоў вайну“, „досыць ахвяр“, „мір як-бы там ні стала“ знайшлі плённую глебу сярод рабочых і сялян, апранутых у шэрыя салдацкія шынэлі.

Гісторыя захавала надзвычайна цікавы тагачасны дакумант—заключэньне аб настроі войск Заходняга фронту **да 22 кастрычніка,** зробленае Ваенным Камісарам Часовага Ўраду згоднікам Жданавым.

Жданаў даводзіў да ведама галоўнага камандаваньня наступнае:

„Нервное настроение в армиях нарастает с каждым днем: нарушения дисциплины захватывают новые части. Пропаганда большевиков преобладает и **пользуется успехом.** Массы упрощают лозунги, делая из них разрушающие выводы, без всякой мысли о влиянии совершаемого на судьбы родины и революции. Есть угрозы уйти с фронта, если мир не будет заключен в ближайшее время. Преступные элементы не могут быть преданы суду, так как дознания в редких случаях обнаруживают виновных. Волнующим вопросом является мир во что бы то ни стало и на каких угодно условиях. Возбуждает недовольство дороговизна предметов первой необходимости, табачных изделий и уменьшение дачи хлеба.

Доверие к комитетам падает, их отказываются слушать, **прогоняют и избивают.** Запуганные комитеты слагают полномочия, не дожидаясь перевыборов. Ненависть к офицерам растет в связи с распространением убеждения, что офицеры затягивают войну. Настроение войск фронта ухудшается. Настроение комитетов, офицеров и командного состава, подавленных стихийным количеством нарушений дисциплины, паническое. **Руки опустились. Развал достигает своего апогея“.**



Пэрыяд вялікага „развалу“ на дышоў. У тым-жа кастрычніку масы рабочых і сялян, пад кіраўніцтвам бальшавікоў, стварылі сваю рэволюцыю—Вялікі Кастрычнік. За пэрыяд з лютага да кастрычніка масы, адзетыя ў салдацкія шынэлі, уразумелі, што **не на фронце** імпэрыялістычнай вайны трэба „бараніць“ рэволюцыю на чале з буржуазным часовым урадам. Патрэбна свая, новая рэволюцыя. І рэволюцыя была створана. У той-жа час, калі ў Ленінградзе рабочыя вырвалі з юнкерскіх рук уладу, масы рабочых і сялян Заходняга фронту вырвалі ўладу з рук буржуазнага афіцэрства і стварылі **свой Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт Заходняга фронту.**

Рэволюцыянізаваныя франтавікі пакідалі імпэрыялістычны фронт і накіроўваліся на фронт Кастрычніка, тварыць сваю рэволюцыю—рэволюцыю рабочых і сялян.

Лёзунгі фронту: „далоў вайну“, „досыць непатрэбных ахвяр“ былі зьменены ў адзін славутны лёзунг-справу:

**„Мы імем паўстаўшых рабочых і сялян Рэспубліку Саветаў абвяшчаем!“**

І доўга што не „апускаліся рукі“ камісараў Жданавых, палкоўнікаў Балуевых, Малявіных, генэралаў Духоніных у барацьбе з паўстаўшымі салдацкімі масамі, з паўстаўшымі рабочымі і сялянамі.

Гэтыя найміты буржуазіі ў першыя-ж дні Кастрычніка стварылі так зв. „Камітэт ратунку рэволюцыі“ і на Заходнім фронце. Гэтыя найміты ўсімі спосабамі імкнуліся рушыць на Ленінград „верныя рэволюцыі“ так зв. георгіеўскія батальёны, дзікую дывізію, ударныя батальёны. У канцы кастрычніка 1917 г. гэтыя згоднікі хацелі вырваць з рук Менскага Савету Рабочых і Салдацкіх Дэпутатаў уладу ў свае рукі, і зрабіць Менск сваім гняздом, гняздом контр-рэволюцыі на Заходнім фронце. Яны-ж, не „апускаючы рук“, мелі замер падкласьці пэроксілінавыя шашкі пад чыгуначную каляю на 708 вярсьце пад Менскам з мэтаю ўзарваць браніраваны цягнік, які ішоў на дапамогу Ваенна-Рэволюцыйнаму Камітэту Заходняга фронту і Менскаму Савету, але спазьніліся... Пакрыты сталёвымі латамі цягнік спакойна падышоў да Менску, стаў на Серабранцы і дуламі гармат, накіраванымі на Менск зрабіў заяву:

— Імем паўстаўшых рабочых і сялян

Электростанцыя у Слуцку

Менск павінен быць Савецкім Менскам!

І Менск стаўся савецкім.—4 лістапада 1917 г. загад Ваенрэвкому Заходняга фронту № 3 паведамляў:

„Теперь Минск находится во власти Военно-Революционного Комитета Западного фронта, и в городе царит полное спокойствие“.

„В виду перехода всей власти на Западном фронте в руки Военно-Революционного Комитета, предписывается всем учреждениям, организациям и лицам не исполнять никаких распоряжений и приказов, за исключением приказов штаба в части чисто оперативной и боевой, кроме распоряжений Военно-Революционного Комитета“.

— Уся ўлада Саветам!—лёзунг кінуты на Беларусі Ваенна-Рэволюцыйным Камітэтам Заходняга фронту быў адразу падхоплены рабочымі і сялянамі Беларусі. Беларусь сталася Савецкай.



Новы шлях праз балота

ВЫПІСВАЙЦЕ
—ЧЫТАЙЦЕ—
І ПАШЫРАЙЦЕ

ШТОДЗЁННУЮ ГАЗЕТУ

# „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

орган Ц. В. К. Беларусі.

**ПАДПІСНАЯ ПЛАТА**

| | |
|---|---|
| на 1 м-ц . . | — 70 к. |
| „ 2 м-цы . . | 1 р. 40 к. |
| „ 3 м-цы . . | 2 р. — к. |
| „ 6 м-цаў . | 4 р. — к. |
| „ год . . . | 7 р. — к. |

**ПЛАТА ЗА АБВЕСТКІ**

| | |
|---|---|
| за радок пасьля тэксту | — р. 50 к. |
| за радок пасярод тэксту | 1 р. — к. |
| за радок перад тэкстам | 1 р. 50 к. |

сьпешны на 50 проц. даражэй
звыш тарыфу бярэцца 10% налогу
— ПУБЛІКАЦЫІ ЗАГС'у 3 руб. —

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА**

у Менску—у канторы газэты—2-гі дом Саветаў, у правінцыі—упаўнаважанымі канторы, усімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі і аддзяленьнямі Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

1-ая Дзяржаўная друкарня. Галаўлітбел № 28

# 1917 год у Петраградзе





1) Будынак, зруйнаваны снарадам.

2) Петраградзкая гарадзкая дума.



3) Паўстаўшыя салдаты каля дзяржаўнай думы—зараз палац імя Ўрыцкага.





4) Гарматы на вуліцах Петраграду.

Салдаты правяраюць прапускі.